# ЗЯМНЫ ПАКЛОН ВЕТЭРАНАМ — ФРАНТАВІКАМ, ПАРТЫЗАНАМ, ПРАЦАЎНІКАМ ТЫЛУ — УСІМ, ХТО ЎНЁС НЕАЦЭННЫ ЎКЛАД У СПРАВУ ВЫЗВАЛЕННЯ ЗЯМЛІ БЕЛАРУСКАЙ АД ФАШЫСЦКАГА НАШЭСЦЯ


# НАВІНЫ



Акадэміі навук Беларусі

Заснавана ў кастрычніку 1979 года ● № 22(751) ● 10 чэрвеня 1994 г. ● Цана 25 руб.


# ЗВАРОТ
## да кіраўнікоў дзяржаў Украіны, Беларусі і Малдовы

Працэсы пераўтварэнняў у дзяржаўнай будове, глыбокі крызіс у нацыянальных і эканамічных стасунках, якія адбываюцца цяпер на тэрыторыі былога Саюза ССР, не могуць не аказваць уплыву і на сферу навуковай дзейнасці.

Скарачэнне асігнаванняў на навуку ўжо прывяло да згортвання многіх навукова-даследчых праграм, нават тых, якія маюць першаступеннае значэнне для развіцця грамадства.

Ідзе адток высокакваліфікаваных навуковых кадраў, асабліва моладзі, падае прэстыж навуковай працы і гэты працэс нарастае, прымаючы пагражальны характар. Ход падзей уяўляе несумненную небяспеку для нацыянальных інтарэсаў нашых дзяржаў, бо вядзе да разбурэння інтэлектуальнага патэнцыялу грамадства і яго дэградацыі. У канчатковым выніку мы можам пазбавіцца сваіх пазіцый у міжнароднай сістэме навукова-тэхнічнай дзейнасці і ператварыцца ў сыравінныя прыдаткі развітых краін.

Руйнуецца кааперацыя навуковай працы вучоных, што стваралася намаганнямі многіх пакаленняў. Плённыя творчыя і дзелавыя сувязі навуковых калектываў, якія раптоўна апынуліся па розныя бакі дзяржаўных граніц, разарваны. Навукоўцы пазбавіліся доступу да агульнай сістэмы інфармацыі, банкаў навуковых даных, навукова-тэхнічных комплексаў, што ствараліся агульнымі намаганнямі.

Акадэміі навук Украіны, Беларусі і Малдовы, разумеючы выключнае значэнне для сваіх краін навукі і навукоўцаў, звяртаюцца да вас з заклікам прыняць тэрміновыя захады па падтрымцы навукі ў сваіх краінах.

Неабходна тэрмінова распачаць актыўныя дзеянні, у тым ліку і заканадаўчага парадку, па прадастаўленню ўстановам і арганізацыям навукі і навуковага абслугоўвання рэжыму найбольшага спрыяння, пашырэння на іх ільготных тарыфаў на энерганосьбіты, падатковых і мытных ільгот, садзейнічаць развіццю міжнароднай навуковай кааперацыі і інтэграцыі.

Выключна важна, на нашу думку, менавіта цяпер стварыць такія ўмовы для супрацоўніцтва навукоўцаў нашых дзяржаў, якія дазволілі б эфектыўна выкарыстаць сумесны інтэлектуальны патэнцыял. Неабходна падтрымаць дзейнасць Міжнароднай асацыяцыі акадэмій навук (МААН), створанай больш паўгода таму з мэтай аб'яднання высілкаў навукоўцаў у вырашэнні найважнейшых навуковых праблем, захоўвання і далейшага развіцця творчых сувязей, якія гістарычна склаліся.

Улічваючы тое, што навука — сістэма вельмі ўразлівая і цяжкааднаўляемая, а ўзровень навукі і тэхналогій з'яўляецца адным з найважнейшых фактараў, якія забяспечваюць вырашэнне жыццёва важных задач любой дзяржавы, звяртаемся да вас з просьбай аказаць усю неабходную падтрымку навуцы сваіх краін, скарыстаць усе магчымасці для садзейнічання захаванню і развіццю творчых сувязей і супрацоўніцтва паміж нашымі акадэміямі навук.

**Прэзідэнт Нацыянальнай Акадэміі навук Украіны акадэмік**
**Б. Я. ПАТОН,**

**прэзідэнт Акадэміі навук Беларусі акадэмік**
**Л. М. СУШЧЭНЯ,**

**прэзідэнт Акадэміі навук Малдовы акадэмік**
**А. М. АНДРЫЕШ.**

**(Інфармацыю пра нараду чытайце на 4-й старонцы.)**

*Праз тоўшчу часу*

## Чым не шанцаванне?

**Пасля двух раненняў, якія атрымаў у баях за Падмаскоўе ў 1941—1942 гг. (а было мне ў той час 18), ваенным лёсам было наканавана мне памяняць армейскую спецыяльнасць. Быў сувязістам, стаў танкістам, механікам-вадзіцелем «трыццацьчацвёркі», а калі трэба, мог і за радыста ў танку «папрацаваць».**

**Але ж кожны разумее, што ратная праца, як ні была б яна падобна да мірнай, адрозніваецца адной дробяззю: небяспекай смерці. І надзейнай тэхнікі бяспекі на фронце ніхто дагэтуль не прыдумаў. Словам, як пашанцуе.**

**Не ведаю, як сказаць пра маё франтавое быццё, ці то шанцаванне, ці то не. Вядома, ужо адно тое, што вярнуўся з вайны жывы,— несумненнае шчасце. Мала каму давялося, як мне, прайсці ледзь не з самага пачатку вайны да яе канца жывым.**

**Затое на раненні таксама «шанцавала». Пры вызваленні Ржэва, дзе, як вядома, ішлі жорсткія баі, мы падбілі нямецкі танк. Але і нам дасталася. Наша бранявая машына загарэлася, камандзіра забіла, у мяне была цяжкая рана, апёкі.**

**Дзякуй сябрам, яны выцягнулі мяне з палаючага танка, выратавалі. Пяць месяцаў — на шпітальным ложку ва Ульянаўску. Ачомаўся, скончыў тут жа, у горадзе, вучылішча, дзе авалодаў навукай ваджэння новых танкаў ІС-2, ІС-3, а таксама навучыўся кіраваць нямецкімі «Тыграмі» і «Пантэрамі». Пазней даведаўся, што фарміраваліся спецыяльныя часці, дзе танкавыя экіпажы складаліся з трох рускіх і аднаго «немца». На варожых трафейных танках яны беспершкодна пранікалі ў размяшчэнне праціўніка і не давалі яму ўзрываць масты і іншыя важныя аб'екты.**

**Мне ж выпала камандаваць ротай баявых машын у складзе 29-й брыгады цяжкіх танкаў, прымаць удзел у аперацыі «Багратыён», вызваляючы Беларусь, за што быў узнагароджан ордэнам Айчыннай вайны II ступені. А ў красавіку пры штурме Кёнігсберга зноў «пашанцавала» — знайшла-такі шалёная куля. Тым не менш вайну скончыў у Берліне. Сустрэў там Дзень Перамогі.**

**Ну, чым не шанцаванне?**

**М. МАРОЗАЎ,**
старшы лейтэнант у адстаўцы,
былы работнік **ІФ АНБ.**

# ВУЧОНЫЯ АКАДЭМІІ Ў ГАДЫ ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ

Дзейнасць Акадэміі навук БССР з пачатку Вялікай Айчыннай вайны праходзіла ў нязвычна складаных умовах. Савецкая Беларусь першая прыняла на сябе масіраваны ўдар гітлераўскіх полчышчаў. Кіраўніцтва АН БССР прыняло ўсе меры да таго, каб эвакуіраваць на Усход супрацоўнікаў і матэрыяльную базу акадэміі. З-за хуткага руху гітлераўскіх войскаў ажыццявіць арганізаваную эвакуацыю людзей і абсталявання АН БССР не ўдалося. І ўсё ж, нягледзячы на вялікія цяжкасці, ва ўмовах няспынных бамбёжак, супрацоўнікі акадэміі групамі і паасобку прабіваліся на Усход. У першыя ж дні вайны многія работнікі АН уліліся ў рады Чырвонай Арміі. Такім чынам, ужо ў самым пачатку вайны нармальная дзейнасць АН рэспублікі аказалася спыненай.

Дзяржава зрабіла ўсё магчымае, каб захаваць кадры беларускіх вучоных, аказаць дапамогу ў іх творчай працы. 7 ліпеня 1941 г. Саветам па эвакуацыі пры СНК СССР было прынята рашэнне аб накіраванні акадэмікаў і іншых высокакваліфікаваных спецыялістаў АН БССР у Ташкент для выкарыстання іх на рабоце ў мясцовых НДІ і вну. Але з-за розных абставін большасць навуковых кадраў акадэміі аказалася па-за яе межамі, у самых розных месцах краіны. Да пачатку 1942 г. супрацоўнікі АН БССР знаходзіліся ў болей як 30 пунктах СССР.

Найбольш значная група беларускіх вучоных асталявалася ва Узбекскай ССР. У пачатку студзеня 1942 г. у Ташкенце адбылося першае пасля эвакуацыі з Мінска пасяджэнне прэзідыума АН БССР, на якім былі разгледжаны пытанні, звязаныя з узнаўленнем дзейнасці акадэміі.

Для больш хуткага вырашэння арганізацыйных пытанняў і распрацоўкі планаў работы 12—13 сакавіка 1942 г. у Казані адбылася сесія АН БССР. Прыняты сакавіцкай сесіяй план работы на 1942 г., у якім асноўная ўвага была аддадзена абароннай тэматыцы, стаў значным крокам у перабудове дзейнасці акадэміі на ваенны лад. Сесія паказала, што АН БССР захавала свае асноўныя навуковыя кадры і здольна вырашаць вялікія і сур'ёзныя задачы.

У сувязі з часовай акупацыяй Беларусі расходы на ўтрыманне ўстаноў рэспублікі, эвакуіраваных у тыл, ішлі з другой паловы 1941 г., а таксама ў 1942 і 1943 гг. па каштарысных асігнаваннях саюзнага ўрада. Дзякуючы гэтаму змагла разгарнуць сваю дзейнасць і АН Беларусі. Нават у самыя цяжкія часы вайны ўрад краіны праявіў клопат аб умовах жыцця і працы работнікаў навукі. У мэтах паляпшэння матэрыяльнага стану вучоных урад устанавіў для іх у верасні 1942 г. новыя, павышаныя аклады. Харчовыя тавары адпускаліся па нормах, устаноўленых для рабочых прамысловых прадпрыемстваў.

Умовы, у якіх апынулася АН БССР у гады вайны, вымушалі правесці змены ў кіраванні і прыняць новыя формы работы. У 1942—43 гг. асноўнымі навуковымі падраздзяленнямі былі групы вучоных, якія канцэнтраваліся вакол акадэмікаў і членаў-карэспандэнтаў АН БССР па месцу іх працы. У той час гэта была найбольш мэтазгодная форма навуковай арганізацыі, якая дазваляла весці працу па планах АН БССР.

У канцы красавіка 1943 г. акадэмія атрымала дазвол на разгортванне дзейнасці ў Маскве. Навуковыя ўстановы Масквы аказалі дапамогу АН БССР у стварэнні базы для навукова-даследчай работы. Ей былі прадастаўлены лабараторыі і апорныя пункты Маскоўскага тарфянога інстытута, Маскоўскага хіміка-тэхналагічнага інстытута імя Дз. І. Мендзялеева, Усесаюзнай сельскагаспадарчай акадэміі імя К. А. Ціміразева і іншых навуковых устаноў. У кастрычніку 1943 г. у распараджэнне АН БССР было перададзена некалькі будынкаў у Маскве.

Пасля перабазіравання АН БССР у Маскву пачаўся інтэнсіўны працэс аднаўлення яе арганізацыйнай структуры і сеткі навуковых устаноў. У 1943 г. узнавілася дзейнасць Аддзялення грамадскіх навук. У кастрычніку 1943 г. пачало функцыянаваць Аддзяленне тэхнічных навук у складзе Інстытута торфа, лабараторый

**(Працяг на 2-й стар.).**

*ГЭТЫХ ДЗЁН НЕ ЗМОЎКНЕ СЛАВА*

# РАДАВЫ ВАЙНЫ, ЯКІ СТАЎ

### ПРЫ ПОГЛЯДЗЕ НА ФАТАГРАФІЮ

На акопнага франтавіка ўзнагароды праліўным дажджом не падалі, нават рэдзенькім не сыпаліся. Шчырыя байцы перадавой часцяком прыходзілі пасля вайны ў гімнасцёрках, не падобных да сённяшніх мундзіраў-іканастасаў, упрыгожаных пасляваенными памятнымі медалямі, якімі адзначаліся ўдзельнікі вайны ў гонар розных юбілейных угодкаў. Салдаты прыходзілі дамоў, нярэдка не маючы на грудзях ніводнага знака, які сімвалізаваў бы іхнюю смеласць, стойкасць, сілу супраціўлення ворагу.

Гляжу на фотакартку бравага воіна Барысевіча ў пагонах радавога, і чалавек, якога я, па сутнасці, яшчэ не ведаю, выклікае несумненную павагу. Тры ордэны! Ды яшчэ і якія — дзве Чырвоныя Зоркі і ордэн Айчыннай вайны.

Ваяваў салдат у складзе артылерыйскага корпуса **прарыву**. Самі разумееце, што ён значыць на вайне, прарыў. Прычым, здолеў «зарабіць» два знакі баявой доблесці, у тым ліку ордэн Айчыннай вайны, прыкладна за год — пасля таго, як Чырвоная Армія ўступіла з баямі ў межы Магілёўскай вобласці, і маладыя байцы партызанскага злучэння, у якім камандаваў узводам Мікалай Барысевіч, былі залічаны ў склад франтавых часцей. Радавымі. Тутэйшае камандаванне не прымала ў разлік партызанскай іерархіі.

### ГЭТАК ПАЧЫНАЛАСЯ СУПРАЦІЎЛЕННЕ

А партызанскі вопыт быў далёка не бескарысны. Партызаны іншы раз траплялі ў такія складаныя пераплёты, што і франтавікам не прыпадала. Партызан, а тым больш падпольшчык штодзень хадзіў нібы па лязу брытвы. Наўкола вораг, зрабі не той крок, аступіся — і ты ў яго лапах.

Ужо праз некалькі дзён пасля сканчэння сярэдняй школы бяязінскі хлапчук Мікалай Барысевіч зразумеў гэта, што называецца, скурай. Бо на дзесяты дзень вайны ён, жыхар пасёлка Лучны Мост Сялібскага сельсавета, увачавідкі ўбачыў салдатаў у шэрай і зялёнай вопратцы, браніраваныя пачвары з чорна-белымі крыжамі на гарматных вежах, павучыную свастыку на сцягах.

Гэтак хутка ворага тут не чакалі. Не Чырвоная Армія на варожай зямлі — фашысцкі салдат на нашай. Нямецкая гамонка на беларускай рацэ Бярэзіне, у глыбіні беларускага краю. Ды не «Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!»,— гергечуць чужынцы, а «за супраціўленне «новаму парадку» — расстрэл!». Які ўжо тут інтэрнацыяналізм?!

Група камсамольцаў на чале з сакратаром сельсавета Бурымскім пачала збіраць і хаваць зброю, у асноўным савецкую, якой тут досыць засталося. Цягнулі з берагоў і з-пад вады беларускай ракі Бярэзіны, захопленых цяпер гітлераўцамі, рупячыся непрыкметна для варожых вачэй схаваць вінтоўкі, патроны, гранаты. Удавалася. Ніхто з хлопцаў не папаўся ў кіпцюры фашысцкага дракона.

Мікалай Аляксандравіч Барысевіч згадвае, што запасы зброі ў іх былі ўжо дастаткова значныя, бо назапашванне доўжылася працяглы час, пакуль перадалі камсамольцы першыя свае трафеі народным мсціўцам з 208-га палка на чале з палкоўнікам Нічыпаровічам, якія былі аднымі з першых, хто потым распаліў усебеларускі пажар сапраўднай партызанскай вайны супраць акупантаў. Але гэтак здарылася крыху пазней, у снежні 41-га. А задоўга да таго камсамольцы «рэквізавалі» радыёпрыёмнік і, слухаючы Маскву, даносілі да людзей яе голас, абвяргалі фашысцкую хлусню пра падзенне савецкай сталіцы.

Гэтак пачыналася супраціўленне.

### У ТЫЛЕ ВОРАГА. АСАБІСТЫ ВЫНІК ВАЙНЫ

Прыйшла вясна, спадчынніца першай ваеннай зімы. Ускрыла з-пад лёду рэкі, азёры і зноў ажывіла нелегальны збор зброі пад вадой. У рачным глеі зброя засталася, як навенькая, не заржавела, і хлопцы, шчоўкаючы затворамі, радаваліся — хоць тут жа бяры і страляй. Зрэшты, страляць-такі неўзабаве давялося — у чэрвені амаль уся падпольная група была залічана ў 152-і партызанскі атрад, падначалены Грыцану, хаця і не спыніла паляванне за вогнестрэльнымі «цацкамі».

Аднойчы жменька партызанаў і Мікалай сярод іх завярнулі ў свой Лучны Мост. Не паспелі, што называецца, дыхнуць, як пасёлак акружылі немцы і паліцаі. Нехта, відавочна, «стукнуў». Хлопцам пашанцавала — знайшлі нейкую шчыліну, выслізнулі. Але заплацілі дарагой цаной: былі арыштаваны бацькі, малодшая сястра, два дзядзькі Мікалая. Толькі дзякуючы настаўніцы-падпольшчыцы, якая з «падачы» мясцовых патрыётаў уладкавалася перакладчыцай пры немцах, удалося выкупіць радню, акрамя аднаго з дзядзькоў, які аж да 44-га года, да вызвалення Чырвонай Арміяй пакутаваў у магілёўскім канцлагеры. І гэта не самы журботны ўспамін Мікалая Аляксандравіча. Яшчэ чатыры дзядзькі яго загінулі, два на фронце, трэці — ад рук фашыстаў у сваёй вёсцы. Чацвёрты ягоны дзядзька Н. С. Махнач, да вайны вучоны-сакратар Інстытута гісторыі АН БССР, загінуў у Трасцянецкім лагеры смерці.

Каб завяршыць аповед пра ваенны шлях будучага прэзідэнта акадэміі, прывяду два абзацы са справаздачы камандавання партызанскага атрада № 152 Магілёўскай вобласці. Справаздача пра дыверсійную дзейнасць на чыгунцы с 10 лістапада 1942 па 30 чэрвеня 1943 года змешчана ў першай кнізе другога тома дакументальнага зборніка «Усенародны партызанскі рух у Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны». Цытую: «27 красавіка 1943 г. у 5.20 дыверсійнай групай пад камандаваннем Філатава, Барысевіча на чыгунцы Бабруйск-Жлобін у раёне Амельна пушчан пад адхон варожы эшалон з жывой сілай, які ішоў з Бабруйска на Жлобін. У выніку крушэння знішчаны 1 паравоз, 18 вагонаў». І далей: «30 чэрвеня 1943 г. у 6.30 дыверсійнай групай пад камандаваннем лейтэнанта Еўтуховіча з удзелам Філатава, Барысевіча, Давыдкіна, Чахоўскага на чыгунцы Бабруйск-Жлобін у раёне в. Марусенька пушчан пад адхон варожы эшалон, што ішоў з Бабруйска на Жлобін... разбіты 1 паравоз, 14 платформаў з аўтамашынамі. Пашкоджана і знішчана 14 аўтамашын...»

Барысевіч прымаў удзел у «рэйкавай вайне», штурме многіх гарнізонаў. За баявую дзейнасць у тыле праціўніка ён узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі і медалём «Партызану Айчыннай вайны» I ступені.

Агульны ж рахунак яго ўзнагародам у 1945 г., акрамя пералічаных, падсумавалі яшчэ медалі «За ўзяцце Берліна», «За Перамогу над Германіяй». Ён прайшоў з баямі Беларусь, Польшчу, паў-Германіі, закончыўшы вайну ў Берліне.

— Абураны, што сёння знаходзяцца людзі,— гнеў уздымае яго з крэсла,— якія гатовы дараваць здраднікам не проста іх удзел у вайне супраць свайго народа. Гатовы дараваць нават ваенныя злачынствы, якім няма тэрміну даўнасці. Яны спрабуюць паставіць на адну дошку ўсіх, хто ваяваў з абодвух бакоў. Ім усё роўна, ці ты лізаўся з акупантамі, ці са зброяй у руках абараняў сваю зямлю.

### АД СТУДЭНТА ДА НАВУКОЎЦА

На двары стаяў не вельмі халодны снежань 1945-га, калі ён вяртаўся на радзіму. Яму вельмі хацелася вучыцца. Хацелася, як тады, калі ў чэрвені 1941-га ён марыў пра універсітэт. Праўда, дакладна яшчэ не ведаў, чаму аддаць перавагу: фізіцы, хіміі, матэматыцы. У яго табелі з ацэнкамі былі суцэльныя «выдатна».

Памяць Мікалая была моцнай, людзі казалі — бліскучай. Яна чэпка трымала веды, атрыманыя больш за чатыры гады таму і незапатрабаваныя дагэтуль. У звычайных выпадках дастаткова, каб прытупілася многае, пра што ведаў раней. У яго такой праблемы не існавала.

Была іншая. Ужо тры з паловай месяцы абітурыенты чэрпалі з новых, глыбокіх, не даступных школьніку крыніц.

У прарэктара БДУ акадэміка Макушка не было сумненняў, прыняць ці не прыняць у студэнты ўчорашняга франтавіка. Хаця ў 22-гадовым узросце, нават раней, ужо канчаюць вну. Гэты ж толькі паступае. Аднак... Вось імення. Ягоны, як і тысячы іншых шляхоў да парога навукі, быў асвістаны кулямі, аглушаны гарматным грукатам. І ён, гэты малады настойлівы чалавек, мае права на спазненне.

— Вось толькі чаму фізіка-матэматычны? Вам лягчэй было б дагнаць астатніх на любым гуманітарным факультэце. Раю падумаць.

Не, прарэктар недаацаніў суразмоўцу. Ды хіба ён ве-

М. А. Барысевіч, 1944 г.

★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★

# Вучоныя акадэміі ў гады Вялікай Айчыннай

(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).

фізіка-хіміі калоідаў, кінетыкі і каталізу, тэхнічнай фізікі. Аддзяленне прыродазнаўчых і сельскагаспадарчых навук аб'ядноўвала ў 1943 г. работу Інстытута сацыялістычнай сельскай гаспадаркі і медычнай групы.

Інстытуты, што існавалі ў складзе АН БССР да пачатку вайны на працягу 1943 г. і ў першай палове 1944 г., былі аднаўлены ў Маскве. У маі-чэрвені 1944 г. аднавілі работу Інстытуты літаратуры і мовы, гісторыі, тэарэтычнай і клінічнай медыцыны, хіміі. Каштарыс расходаў АН БССР на 1944 г. быў зацверджаны ўрадам рэспублікі ў суме 788 тысяч рублёў.

Вучоныя акадэміі прымалі ўдзел у вырашэнні пытанняў, звязаных з пашырэннем і павелічэннем сыравінных рэсурсаў краіны, распрацоўвалі новыя і ўдасканальвалі існаваўшыя тэхналагічныя працэсы ў вытворчасці, намячалі мерапрыемствы па павышэнню ураджайнасці сельскагаспадарчых культур, па пашырэнню іх пасеваў.

Ужо ў канцы 1941 г. члены-карэспандэнты АН БССР Б. В. Ерафееў і А. М. Розін правялі паспяховыя даследаванні па вызначэнню зместу рэдкіх элементаў ванадыя і літыя ў горных пародах Урала-Волжскага рэгіёну, што адыграла важную ролю ў вытворчасці высакаякасных сталей. Пазней Б. В. Ерафееў распрацаваў і арганізаваў вытворчасць празрыстай брані з арганічнага шкла для самалётаў.

Патрэбнасць у маторным паліве з нафты падчас вайны рэзка ўзрасла. Трэба было як мага больш выкарыстоўваць мясцовае цвёрдае паліва. Для вырашэння гэтай задачы членам-карэспандэнтам АН БССР Б. К. Клімавым у 1942 г. была распрацавана сістэма пячэй для паўкаксавання вугаляў і сланцаў. Вынікі даследаванняў, праведзеных у 1943 г. вучонымі Інстытута торфу па каксаванню пячорскіх вугаляў у сумесі з торфам, былі ўлічаны пры аднаўленні коксагазавага завода ў Ленінградзе. Пад кіраўніцтвам члена-карэспандэнта АН БССР У. Я. Ракоўскага быў распрацаваны тэхналагічны працэс комплекснай перапрацоўкі торфу з атрыманнем коксу і маторнага паліва.

**Мікалай ТОКАРАЎ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

**(Заканчэнне будзе)**

*Удзельнікі сесіі АН БССР. Казань, 1942 г. З архіву Інстытута гісторыі.*

# Іван Навуменка:
# «Апавяданні ваенныя яшчэ пішу. І буду пісаць»

*З пісьменнікам, Саветнікам прэзідыума АНБ акадэмікам І. Я. Навуменкам гутарыць Аляксандр Юрын.*

**— Іван Якаўлевіч, пад знакам вайны прайшло ваша юнацтва: у сорак першым вам было шаснаццаць, у сорак пятым — дваццаць. Наколькі яна паўплывала на ваш далейшы лёс, у прыватнасці — пісьменніцкі?**

— Вайна застала мяне ў шаснаццацігадовым узросце. У той час я марыў пра вучобу ў інстытуце. Дзеля таго, каб зраўняцца са старэйшымі сябрамі і потым разам з імі працягваць вучобу, я за адзін год скончыў два класы. Жыццё, здавалася, раскрывае перад намі прывабліўыя далі і гарызонты, але — вайна...

Вядома, маё пакаленне прадчувала, што вайны не мінаваць. Толькі мы ніяк не думалі, што яна так хутка пачнецца, не даўшы нам нават выпецца з роднага гнязда, і будзе такой неспрыяльнай для нас напачатку.

У маім жыцці вайна займае асобнае месца. Я ўдзельнічаў у падпольным і партызанскім руху, затым быў на фронце. Усё гэта не магло не адбіцца на маім далейшым лёсе. Па сутнасці вайна аказала значны ўплыў на маё фарміраванне, зрабіла мяне такім, які я ёсць. Тым не менш, доўгі час я не асмельваўся пісаць на ваенную тэму. І толькі ў 1955 годзе з'явіліся мае першыя апавяданні — «Сідар і Гараська», «Эх, махорачка»,— прысвечаныя вайне.

**— Але як вы да іх прыйшлі, што вас падштурхнула ўзяцца за гэтую тэму?**

— Я чытаў ваенныя творы іншых пісьменнікаў, але мне здавалася, што там мала праўды пра вайну. Вопыт, які я вынес з вайны, патрабаваў разнастайных фарбаў, шырокага погляду на падзеі, драматызму і нават трагізму. Гэта зусім не выключала гераізм, які быў на ўсіх этапах вайны, бо маё пакаленне верыла ў перамогу з самага пачатку і для яе дасягнення не шкадавала сваіх жыццяў. Але пісаць пра вайну так, як хацелася мне, было не прынята. І калі б не адбыўся дваццаць з'езд партыі, магчыма, я так

# МАРШАЛАМ У НАВУЦЫ

даў, з кім мае справу? Яму здавалася, што чалавек хоча атрымаць вышэйшую адукацыю, не паспеўшы па сваёй маладосці зрабіць выбар прафесіі. Што вышэйшая адукацыя патрэбна чалавеку для перспектывы ў далейшым жыцці. Што ўдасканальвацца далей можна ў любой сферы дзейнасці. Ён жадаў дабра маладому чалавеку, які і без таго хапануў цяжкасцей звыш меры. Такіх цяжкасцей, што хапіла б і на дзесятак людзей, не зведаўшых лютасці непасрэднай схваткі не на жыццё, а на смерць.

— Я ўсё-такі пастараюся,— адказаў Барысевіч.— Калі буду апошнім і не здам экзаменаў, тады паступаю на наступны год. Але іншага факультэта для мяне не існуе.

Ён яшчэ з'ездзіў у свой Лучны Мост, пабачыўся з роднымі, землякамі і вярнуўся ў Мінск. Да экзаменаў заставалася тры тыдні. Даганяць жа па фізіка-матэматычных дысцыплінах мелася за цэлы семестр.

Ён зразумеў, што хадзіць на лекцыі — дарэмна. Бо ўсё адно не зразумела без ведання папярэдняга матэрыялу. Барысевіч самастойна штудзіруе пройдзенае па ўсіх дысцыплінах з самага пачатку.

Гэта была шалёная праца. Не параўнаеш ні з адной самай цяжкай баявой аперацыяй. Бо гэта была праца інтэлекту, праца нервовых клетак. Ім не загадаеш працаваць цераз «не магу». Мышцам — так, яны падпарадкоўваюцца галаве. Галава ж — галаве? Прабачце. Галава можа адмовіцца ад успрымання празмернай інфармацыі — хоць страляй, як кажуць. І нічога не паробіш.

...Яму не давялося адкладваць сваё студэнцтва да наступнага года. Мала таго, пасля пяцігадовага універсітэцкага курса яму была прапанавана аспірантура ў знакамітым Ленінградскім дзяржаўным аптычным інстытуце, дзе ён паспяхова абараніў кандыдацкую дысертацыю.

У яго аказаліся не проста выдатныя разумовыя здольнасці, а ўвогуле здольнасці навуковыя. Маю на ўвазе адэкватна высокую ступень працаздольнасці.

### СУСВЕТНАЕ ПРЫЗНАННЕ

Пра Барысевіча-навукоўца напісана нямала. Ды і сам ён пастараўся гучна заявіць пра сябе. Не аўтабіяграфіяй, не мемуарамі. Сваімі працамі, сваёй дзейнасцю. Яго ведаюць навукоўцы, мусіць, усяго свету. Тое, што ён правадзейны член АН СССР,— не дзіва. А яшчэ акадэмік Еўрапейскай Акадэміі навук, мастацтваў і славеснасці, замежны член Чэхаславацкай АН і Славенскай Акадэміі навук і мастацтваў. Барысевічу ўручаны медаль М. Каперніка Польскай Акадэміі навук, залатыя медалі «За заслугі перад навукай і чалавецтвам» Чэхаславацкай, «За выключныя заслугі перад навукай» Славацкай Акадэмій.

Таму напярэдадні святкавання 50-годдзя вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў мне падалося дарэчы больш падрабязна сказаць пра Барысевіча — радавога салдата, перш чым Барысевіча — маршала навукі. Тым не менш не магу не нагадаць некаторыя факты ягонай мірнай, навуковай дзейнасці. Пастараюся карацей, але нездарма кажуць: у свеце ўсё адносна. Бо нават сухі пералік падзей жыцця займае (я пераглядаю часопісы з прысвечанымі Мікалаю Аляксандравічу да яго леташняга 70-годдзя артыкуламі) добрыя дзве старонкі тэксту, хаця і няздробнага, аднак больш-менш спорнага. Дык вось, ён адзін з арганізатараў Інстытута фізікі АН БССР, прэзідэнт Беларускай Акадэміі навук на працягу 18 гадоў! І, як слушна адзначае «Журнал прикладной спектроскопии», за гэтыя гады АНБ заняла адно з першых месц сярод навуковых устаноў былога Саюза, а часопіс «Успехи физических наук» сцвярджае: акадэмік М. А. Барысевіч — таленавіты арганізатар навукі. Думаецца, прызначэнне Барысевіча два гады таму ганаровым прэзідэнтам нашай акадэміі — толькі яшчэ адзін факт прызнання справядлівасці дадзеных ацэнак.

Арганізатар навукі — відочна. А навуковец? Мяркуйце. Стварэнне новага навуковага накірунку — спектраскапіі свабодных складаных малекул. Адкрыццё стабілізацыі-лабілізацыі электронна-узбуджаных шмататамных малекул. Доказ існавання палярызаванай люмінесцэнцыі свабодных складаных малекул. Даследаванні фотафізічных і фотахімічных працэсаў, якія працякаюць у складаных малекулах у піка- і фемтасекундных інтэрвалах...

Пэўна, хопіць. Усё роўна малазразумела. І многім з вас, і мне, паважаныя чытачы. Таму і не спрабую вытлумачыць. Вельмі складанае і ўмелы папулярызатар навукі не звядзе да простага. Таму што ў простым няма аналагаў гэтага складанага. Такія ўжо гэтыя фундаментальныя навукі. Тое, што сёння разумеюць піянеры найноўшых ведаў у навуцы, чалавецтва ў цэлым спасцігае праз многія дзесяцігоддзі, нават стагоддзі, з развіццём цывілізацыі. Дазвольце з гэтай нагоды класічны прыклад. Сёння нам здаюцца смешнымі ўяўленні старажытных пра цвёрды, бы скляпенне, купал неба. А спатрэбіліся ж стагоддзі, каб развеяць гэты, здавалася б, відавочны міф. А колькі коп'яў зламана з прычыны адкрыцця Мікалаем Капернікам з'явы абарачэння Зямлі і іншых планет вакол Сонца? А законы адноснасці Альберта Эйнштэйна? Нездарма ніхто больш не аспрэчвае ісціну, што сучасны шкаляр ведае больш за сярэдневяковага навукоўца.

Падсумуем адно: цывілізацыя не дае прапасці ніводнай карыснай ідэі, ніводнаму адкрыццю, ідучы ўсё далей да спазнання прыроды рэчаў.

... Далёка не кожнаму таленту шанцуе дабіцца прызнання пры жыцці. Дзякуй Богу, з Барысевічам гэтага не здарылася. Герой Сацыялістычнай Працы, кавалер чатырох ордэнаў Леніна, ордэнаў Кастрычніцкай рэвалюцыі, Працоўнага Чырвонага Сцяга — такі пасляваенны працяг шэрагу яго баявых узнагарод. Ён лаўрэат Ленінскай прэміі і Дзяржаўнай прэміі СССР...



М. А. Барысевіч, 1989 г.

а таксама Герой Савецкага Саюза прафесар А. А. Філімонаў і кандыдат гістарычных навук супрацоўнік акадэміі М. У. Токараў — з дакладамі. Прыкладзём намаганні, каб сход прайшоў у цёплых абставінах, проста, па-таварыску, каб кожны яго ўдзельнік адчуў: так, гэта маё свята, так, людзі ведаюць, каму яны абавязаны вызваленнем краіны.

### РЫХТУЮЧЫСЯ ДА СВЯТА ВЫЗВАЛЕННЯ

Мы гутарым з ім ва ўжо блізкі пярэдадзень святкавання паўвекавых угодкаў светлага дня вызвалення рэспублікі ад фашысцкіх акупантаў. Сумеснай пастановай бюро прэзідыума АНБ, прэзідыума Рэспубліканскага камітэта прафсаюза работнікаў Акадэміі навук і Савета яе ветэранаў Мікалай Аляксандравіч прызначаны старшынёй рабочай групы, якой даручана рэалізацыя вялікай праграмы падрыхтоўкі і святкавання ўрачыстасці і кантроль за іх выкананнем.

— Што ўжо зроблена, Мікалай Аляксандравіч, для таго, каб гэтыя ўгодкі сталіся сапраўднай падзеяй для ўсяго калектыву акадэміі і ў першую чаргу для ветэранаў Вялікай Айчыннай.

— Нядаўна члены рабочай групы збіраліся, каб праверыць, як ідзе падрыхтоўка да святкавання. Спадзяёмся, што ўсё намечанае будзе зроблена. Да ўрачыстага сходу ўдзельнікаў вайны, які адбудзецца 14 чэрвеня, падрыхтаван ужо праект запрашальнага білета. Рыхтуюцца да яго і тыя, каму трэба будзе выступіць на сходзе. А выступяць прэзідэнт АНБ Л. М. Сушчэня і старшыня Рэспубліканскага савета арганізацыі ветэранаў вайны і працы А. Я. Андрэеў — з кароткім прывітальным словам кожны,

Мае адбыцца і навуковая сесія Агульнага сходу АНБ, дзе ўступнае слова зробіць прэзідэнт АНБ акадэмік Л. М. Сушчэня і выступяць член-карэспандэнт АНБ М. П. Касцюк, акадэмік В. А. Каваленка, доктар мастацтвазнаўства Р. Б. Смольскі і член-карэспандэнт АНБ П. Ц. Петрыкаў.

У фае канферэнц-залы разгорнем фотавыставу, прысвечаную гістарычнай падзеі. Словам, нашы намаганні скіраваны на тое, каб поўнасцю ажыццявіць план мерапрыемстваў да 50-годдзя вызвалення. Кожнаму члену рабочай групы даручан кантроль за ходам рэалізацыі пэўных мерапрыемстваў. Скажам, два старшыні — Рэспубліканскага камітэта галіновага прафсаюза доктар юрыдычных навук А. У. Матусевіч і Савета ветэранаў АНБ прафесар А. П. Прышывалка курыруюць падрыхтоўку да сходу. За тым, як ідзе арганізацыя выставы, сочаць і прымаюць у гэтым непасрэдны ўдзел намеснік прэзідэнта акадэміі — кіраўнік спраў АН В. В. Максіменка і кандыдат гістарычных навук М. У. Токараў. І гэтак далей. Я ўпэўнены, што святкаванне запомніцца ўсім работнікам акадэміі, а для ветэранаў станецца дадатковым стымулам для бадзёрасці і жыццёвай актыўнасці.

Р. ЛЕВІН.

★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★★

і застаўся б вучоным-філолагам і не ўзяўся б за пісьменніцкае пяро.

**— Вялікая Айчынная вайна ў беларускай літаратуры займае асобае месца. Ёй прысвечана шмат твораў — вершаў і паэм, апавяданняў і раманаў. Ці не здаецца вам, што гэтая тэма ўжо вычарпала сябе, і ўсё, аб чым можна было напісаць, ужо напісана?**

— Да тэмы ВАВ беларускія пісьменнікі і паэты звернуцца яшчэ не раз. Яе працягнуць наступныя пакаленні літаратараў, якія ў вайне не ўдзельнічалі. Перспектыва часу адкрывае нам новыя грані вайны, мы інакш пачынаем глядзець на некаторыя падзеі. Леў Талстой напісаў «Вайну і мір» праз многа гадоў пасля заканчэння Айчыннай вайны 1812 года. Ён нават нарадзіўся праз 16 гадоў пасля таго, як Расія спыніла нашэсце напалеонаўскіх войск. Праўда, Талстой удзельнічаў у Севастопальскай абароне 1853—1855 гг. І што такое вайна — ведаў добра.

**— Іван Якаўлевіч, вы напісалі многа твораў, прысвечаных вайне. Мне здаецца, што звяртацца да гэтай тэматыкі аўтару няпроста, асабліва калі ён сам пабачыў усё ліхалецце ВАВ. Што адчувалі вы, калі браліся за ваенны твор?**

— Я напісаў трылогію: «Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах», «Сорак трэці». Нядаўна скончыў яшчэ адну — «Дзяцінства», «Падлетак», «Юнацтва»,— у якой таксама прысутнічае вайна. Есць у мяне і франтавы раман «Сшытак белых начэй». Што я адчуваў, калі пісаў гэтыя творы? Пісанне — гэта успамін. Ваенных дзённікаў я не вёў і таму выкладаў на паперы тое, што адклалася ў душы, у памяці, у пачуццях. Найперш, у пачуццях. У аснову маіх твораў пакладзены не толькі падзеі, сведкам якіх я быў сам. Я таксама шмат размаўляў з салдатамі, партызанамі, працаваў у архівах.

**— Не магу не задаць вам і вось якое пытанне. Зараз, калі ўбачылі свет многія засакрэчаныя дакументы часоў ВАВ, узнікае сумненне наконт таго, ці правільна мы глядзелі на вайну раней?**

— Некаторыя публіцысты цяпер стараюцца як бы прынізіць значэнне Айчыннай вайны і бессмяротны подзвіг яе ўдзельнікаў. Вядома, на вайне было ўсякае. Але ўжо адно тое, што наша краіна вытрымала націск не толькі фашысцкай Германіі, а і фактычна ўсёй захопленай ёй Еўропы (у сэнсе ваенна-эканамічнага патэнцыялу), робіць подзвіг нашага народа настолькі вялікасным, што ён не павінен згасаць у вяках. Без памяці, гордасці за перамогу ў ВАВ наша краіна проста не зможа існаваць. І не толькі наша.

*Праз тоўшчу часу*

## Новы парадак па-фашысцку

Кожны дзень вызвалення Беларусі ад фашысцкіх варвараў зноў і зноў уваскрашае ў памяці жахі акупацыі нашай зямлі гітлераўцамі. Такія жудасці перажыў і я ў Азарыцкім канцлагеры. А падставай для майго, як і для большасці вязняў, знявolення было адно тое, што я грамадзянін СССР. Ды і ўзрост мой быў усяго 9 гадоў. А былі «злачынцы» і маладзейшыя: аж 2—3 гады ад роду.

Мы былі для фашыстаў быдлам. Білі людзей прыкладамі і ствaлaмі аўтаматаў, знямоглых кідалі ў грузавікі, як мяхі. Асабліва стараліся прыхвасні-паліцаі. Трымалі без ежы, без вады суткамі, пакуль везлі па чыгунцы. Згрузілі на станцыі Рудабелка і пагналі далей пешшу. Тры дні мясілі нагамі снегавую дарогу. Тых, хто падаў і не мог падняцца, канваіры прыстрэльвалі. Дагэтуль не магу забыць — гэта на ўсё жыццё,— як эсэсавец расстраляў чатырох малышоў, бо маці выбілася з сіл несці іх і весці.

Канцлагер — балота з купінамі за калючым дротам. Тут, як і ў дарозе, есці не давалі. Прыпасы харчоў скончыліся, вязні паміралі ад голаду, холаду (на двары стаяў люты — самы зімовы месяц) і хвароб. Хаўтуры заключаліся ў тым, што нябожчыкаў адносілі на некалькі метраў, далей баяліся, бо вартавыя стралялі без папярэджвання на паражэнне.

Каму пашчасціла выжыць, а такіх засталося няшмат, у большасці сваёй неўзабаве пасля вайны памерлі. Мне здаецца, памерлі б усе, калі б не хуткае наступленне Савецкай арміі, якая і выратавала вязняў лагера Азарычы ад пакутлівай гібелі.

М. КОСТКА,
вядучы навуковы
супрацоўнік ІМАФ.

## Пры падтрымцы самаходак

Вясной 1944 мне было 18 гадоў і быў я байцом аддзялення разведкі партызанскага атрада імя Кірава Брэсцкага злучэння. Наш атрад толькі што перадыслакаваўся з Кобрынскага раёна ў балотныя краі паміж Картузскай Бярозай і Пяскамі, дзе разам з іншымі вайсковымі фарміраваннямі занялі кругавую абарону. Задача майго ўзвода заключалася ў тым, каб атрымаць дакладныя звесткі аб прасоўванні ворага з бліжэйшых раёнаў, якія потым перадаваліся на Вялікую Зямлю.

Увечары 6 чэрвеня разам з напарнікам пайшлі ў разведку — трэба было высветліць становішча ў межах 10—15 км ад партызанскай заставы. Да нас таксама далучыліся добраахвотнікі з суседніх вёсак. Абышлі акругу, але ніякіх прыкмет будаўніцтва абарончых аб'ектаў не ўбачылі. Хлопцаў адпусцілі дахаты, а самі на досвітку павярнулі назад, у атрад. Раптам, за які кіламетр да заставы, на дарозе бачым сляды нямецкіх ботаў. У прамежку паміж перадавым атрадам фашыстаў і асноўнымі сіламі перабягаем дарогу — і ў лес. Вярнуліся (а нас ужо палічылі загінуўшымі), далажылі абстаноўку.

Гадзін у дзесяць да атрада прыйшлі дзве самаходкі — гэта была ўжо дапамога перадавых часцей нашай Арміі.

А. ЛЯШКО,
былы супрацоўнік
Інстытута фізікі.

# Нарада прэзідэнтаў акадэмій

На пачатку мая ў сталіцы Малдовы — Кішынёве — адбылася нарада прэзідэнтаў Нацыянальнай Акадэміі навук Украіны Б. Я. Патона, Акадэміі навук Беларусі Л. М. Сушчэні і Акадэміі навук Малдовы А. М. Андрыеша. Удзельнікі нарады выказалі сур'ёзную заклапочанасць тым, што ва ўсіх трох краінах не адчуваецца актыўнай падтрымкі ўрадамі навукі — аднаго з галоўных фактараў паспяховага вырашэння жыццёва важных задач любой дзяржавы.

Удзельнікі нарады, згодна з сваім калектыўным рашэннем, накіравалі прыняты на нарадзе Зварот да кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў Украіны, Беларусі і Малдовы (дакумент публікуецца на 1-й старонцы сённяшняга нумара нашай газеты).

На нарадзе прэзідэнты нацыянальных акадэмій абмяняліся думкамі пра перспектывы развіцця супрацоўніцтва галоўных навуковых цэнтраў трох краін у сучасных умовах. Прынята рашэнне зацвердзіць новыя прынцыпы такога супрацоўніцтва, ухвалены яго прыярытэтныя накірункі і пералік сумесных мерапрыемстваў.

Прызнана мэтазгоднасць аб'яднання намаганняў у ажыццяўленні навуковых праектаў і іншых мерапрыемстваў, як правіла, на падставе адпаведных дагавораў, пагадненняў і пратаколаў, падпісаных навуковымі ўстановамі і арганізацыямі. Акадэміі навук будуць садзейнічаць выкананню падпарадкаванымі ім структурамі ўзятых абавязацельстваў.

Нарада прыйшла да высновы аб неабходнасці засяродзіць сілы навуказнаўцаў трох нацыянальных акадэмій на правядзенні комплексу работ, накіраваных на даследаванне праблем трансфармацыі акадэмічнай навукі ва ўмовах пераходнага перыяду, на вывучэнне і выкарыстанне на Украіне, у Беларусі і Малдове нетрадыцыйных крыніц фінансавання навуковых праектаў, у прыватнасці, забеспячэння ўстаноў гэтых акадэмій навук інфармацыяй пра дзейнасць міжнародных фондаў і праграм, якія інвесціруюць праекты ў галіне навукі.

Навуказнаўчым падраздзяленням акадэмій навук Украіны, Беларусі і Малдовы (кардынатар — Цэнтр даследаванняў навукова-тэхнічнага патэнцыялу і гісторыі навукі імя Г. М. Даброва НАН Украіны) дадзена даручэнне ў месячны тэрмін падрыхтаваць і прадставіць у прэзідыумы супрацоўнічаючых акадэмій узгоднены план правядзення сумесных работ па дадзенай праблеме.

Як прадмет абмеркавання на чарговым пасяджэнні Савета Міжнароднай асацыяцыі акадэмій навук (МААН) прапанавана ўнесці праблемы акадэмічнай навукі ў сітуацыі эканамічнага крызісу і пераходу да рыначных стасункаў.

Нарада выказала просьбу да МААН арганізаваць паміж членамі асацыяцыі рэгулярны абмен інфармацыяй пра міжнародныя канферэнцыі, семінары і іншыя падобныя мерапрыемствы, што плануюцы навуковымі ўстановамі акадэмій-членаў МААН, абмен гадавымі справаздачамі пра дзейнасць акадэмій і г. д.

РЭПАРТАЖ З МУЗЕЯ

# ВАЕННАЙ ПАРЫ НЕЗАБЫЎНЫЯ СТАРОНКІ

Не палічыце сказанае высокімі словамі, але ў гэты музей людзі ідуць па покліч сэрца. Сюды яны прыходзяць, каб яшчэ раз успомніць тых, хто ў цяжкія дні Айчыннай вайны абараняў Бацькаўшчыну ад гітлераўскага ўварвання, і выказаць ім сваю ўдзячнасць...

Ішоў 1981 год, калі мяне, тады яшчэ дзевяцігадовага хлапчука, прымалі ў піянеры, і месцам правядзення ўрачыстай цырымоніі стаў Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Колькі было радасці — толькі ж самым лепшым вучням упершыню павязвалі гальштук у гэтым музеі, сцены якога ўжо звыш дзесяці гадоў. Колькі разоў бываў у музеі, але прахадзіў час і я зноў ішоў туды.

Вось і напярэдадні 50-годдзя вызвалення Беларусі мне давялося пабываць у музеі гісторыі вайны. Як і заўсёды, у ім шматлюдна. Толькі паспела адна група школьнікаў завяршыць агляд экспазіцыі, як у залу пайшла другая, а ў вестыбюлі ўжо збіралася трэцяя. Як сказаў пры сустрэчы дырэктар музея І. І. Баркун, з набліжэннем 3 ліпеня колькасць наведвальнікаў, асабліва маладых, узрастае.

Аддаю кантралёру квіточак і праходжу ў залу. Першыя экспанаты вяртаюць у далёкі трыццаць дзевяты год. У Еўропе ўжо ідзе вайна, пад націскам фашысцкага войска падаюць адна краіна за другой. Аб гэтым сведчаць шматлікія фотаздымкі, слайды, дакументы, газеты, што захаваліся з тых часоў.

Але ў Савецкім Саюзе пакуль спакойна: з Германіяй заключаны пакт аб ненападзенні, і людзі шчыра верашь, што вайны не будзе. Аднак яна пачалася. І своеасаблівым пераходам экспазіцыі да падзей Вялікай Айчыннай вайны з'яўляюцца фотаздымкі, зробленыя за некалькі хвілін да таго, як уздоўж усёй савецкай мяжы запалыхаў вогненны смерч вайны.

Першыя гадзіны вайны, яе першыя дні і яе першыя героі. Большая частка экспазіцыі першай залы прысвечана менавіта ім... Маёр Б. Н. Сурын камандаваў 123-м знішчальным авіяпалком. Ужо ў першы дзень лётчыкі палка збілі ў раёне Брэста 30 варожых самалётаў. Сам маёр быў смяротна паранены, але ў гісторыі, памяці людской ён застаўся жывым і такім жа маладым, якім Б. Н. Сурын быў 22 чэрвеня, у першы дзень вайны і апошні — свайго жыцця.

Наступныя залы расказваюць пра першы этап вайны, калі савецкае войска з баямі адступала, калі многія гарады стрымлівалі націск ворага. Кожны экспанат заслугоўвае таго, каб на ім асобна спыніцца, давесці да чытача яго гісторыю.

Самае цяжкае ўражанне пакідае экспазіцыя, што распавядае пра акупацыйны рэжым і злачынствы гітлераўцаў на тэрыторыі Беларусі. Сэрца крывёю абліваецца, калі глядзіш на здымкі, дакументы, іншыя рэліквіі, якія зберагла для нас гісторыя і якія адлюстроўваюць жахлівую рэчаіснасць часоў акупацыі. Лагер смерці Трасцянец быў адным з буйнейшых на акупаванай тэрыторыі. Да нашых дзён захаваліся вароты лагера і частка агароджы з калючага дроту, вартавая будка і шыбеніца, абгарэлае бервяно з кастра, на якім палілі трупы расстраляных вязняў. Усё гэта — сведкі тых жудасных падзей. Яны не могуць гаварыць, але ці патрэбны тут якія словы?

Праходжу далей — партызанскі рух, падпольная барацьба, усенародная дапамога фронту... Тым часам мяне нагнала чарговая група школьных экскурсантаў. Асаблівую ўвагу маленькіх наведвальнікаў прыцягнула аб'ёмная панарама мастака К. Саламенкі «Падрыў маста на рацэ Дрыса».

Кожная новая экспазіцыя набліжае да апошніх, пераможных дзён вайны. Ужо не такімі засмучанымі выглядаюць на фотаздымках твары савецкіх салдат, больш аптымістычным стаў змест зводак Саўінфармбюро і франтавых газет, куды меншай стала плошча, займаемая ворагам, аб чым яскрава сведчаць ваенныя карты.

І вось, нарэшце, зала, прысвечаная вызваленню Беларусі. У вочы адразу кідаецца зводка Саўінфармбюро, якая пачынаецца словамі «Мінск наш», набранымі вялікімі літарамі. І далей тэкст: «Войскі 3-га Беларускага фронту, пры садзейнічанні 1-га Беларускага, у выніку глыбокага і абходнога манеўра, сёння, 3 ліпеня, штурмам авалодалі сталіцай Савецкай Беларусі горадам Мінскам — важнейшым стратэгічным пунктам абароны немцаў на заходнім напрамку».

Вельмі сімвалічным бачыцца здымак салдата, які прыпаў тварам да роднай, вызваленай ад ворага, зямлі. Не менш сімвалічны і чырвоны сцяг, узняты савецкімі танкістамі над будынкам Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы 3 ліпеня 1944 года.

Канчаецца экспазіцыя музея. Апошнія — Мемарыяльныя — залы. На сценах адной з іх, залы герояў, высечаны звыш 2 тысяч прозвішчаў Герояў Савецкага Саюза і поўных кавалераў ордэна Славы, ураджэнцаў Беларусі і тых, хто змагаўся на яе тэрыторыі...

**— Генадзь Іванавіч,— звяртаюся да дырэктара музея, з якім сустрэўся пасля экскурсіі,— бягучы год для музея гісторыі ВАВ двойчы юбілейны: акрамя 50-годдзя вызвалення Беларусі адзначаецца і 50-годдзе вашага музея. Як вы рыхтаваліся да гэтага святочнага года?**

— Год для музея і сапраўды вельмі святочны і адказны. Дзве паўвекавыя юбілейныя даты гавораць самі за сябе. Што мы да іх падрыхтавалі?

Па-першае, адкрылі новую залу — «Пачатковы перыяд вайны». Усім вядома, што гэта быў вельмі складаны і супярэчлівы перыяд вайны, многія звесткі пра які доўгі час захоўваліся ў тайне. Супрацоўнікі музея ў новай экспазіцыі паспрабавалі ліквідаваць «белыя плямы» першых месяцаў вайны, паказаць іх трагічнасць.

Па-другое, мы падрыхтавалі некалькі тэматычных выстаў. Адна з іх была прымеркавана да 50-годдзя азарыцкай трагедыі. Другая выстава — «Франтавы і партызанскі друк аб вызваленні Беларусі». У вестыбюлі музея аформлена фотавыстава «Святкуе вызваленая Беларусь». Працуем над выставай «Рэліквіі з фонду музея», на якой будзе прадстаўлена шмат цікавых экспанатаў.

**— Арганізацыя падобных выстаў патрабуе доўгай, карпатлівай работы. Вы спраўляецеся з ёю самі ці шукаеце дапамогі?**

— Асноўны цяжар працы падае, безумоўна, на плечы нашых супрацоўнікаў. Але не адмаўляемся і ад дапамогі. У нас наладжаны добрыя кантакты з вучонымі Акадэміі навук. Асабліва хочацца адзначыць загадчыка аддзела гісторыі ВАВ Інстытута гісторыі А. М. Літвіна, які нам шмат у чым дапамагае.

**— Што вы запланавалі на пачатак ліпеня, калі па ўсёй рэспубліцы будуць праходзіць святочныя мерапрыемствы з нагоды вызвалення Беларусі?**

— У першых чыслах мяркуем правесці масавае народнае гулянне, на якое запросім ветэранаў, воінаў, паболып моладзі. Калі знойдзем паразуменне з Міністэрствам абароны, то на пляцоўцы будзе іграць ваенны аркестр і працаваць салдацкая кухня. Думаем, што б яшчэ можна было зрабіць.

Алесь ЮРЫН.



# Час памяці

Свяшчэнныя хвіліны маўчання. У гэты момант салдаты мінулай вайны згадваюць загінуўшых у баях і памершых пасля вайны таварышаў па зброі. Яны перадаюць эстафету памяці сваім маладым паплечнікам, якія не ведаюць вайны. Затое ведаюць, якой цаной здабыт спакой і мір, на варце якога стаяць яны сёння.

*Фота з архіву рэдакцыі.*

У РЭСПУБЛІКАНСКІМ КАМІТЭЦЕ ГАЛІНОВАГА ПРАФСАЮЗА

# Добрага табе адпачынку, дзятва!

**З чэрвеня пачалася першая змена летняга сезона ў дзіцячых аздараўленчых лагерах. РКП работнікаў АН Беларусі размеркаваў 205 пуцёвак для дзяцей членаў прафсаюза, якія працуюць на ўстановах, арганізацыях, на прадпрыемствах акадэміі, у лячэбна-аздараўленчы лагер «Фатон».**

**Вядома, у кожную прафарганізацыю трапіла неаднолькавая колькасць пуцёвак. Інстытуту цепла- і масаабмену дасталося, напрыклад, 13 пуцёвак, а ў калектывы работнікаў дзіцячых садкоў — па адной. Аднак прынцып справядлівасці не парушан: па адной пуцёўцы на кожныя 55 чалавек.**

## Паважаныя чытачы!

НАГАДВАЕМ, ШТО ТЭРМІН ПАДПІСКІ НА «НАВІНЫ АНБ» НА II ПАЎГОДДЗЕ І III КВ. МІНАЕ 15 ЧЭРВЕНЯ. НЕ ЗАСТАНЬЦЕСЯ БЕЗ САМАЙ ДАСТУПНАЙ ПА ЦАНЕ І ЦІКАВАЙ ГАЗЕТЫ.

КОШТ ПАДПІСКІ: ПАЎГОДДЗЕ — 1620 РУБ., III КВ. — 840 РУБ. НАШ ІНДЭКС 64123.

«НАВІНЫ АКАДЭМІІ НАВУК БЕЛАРУСІ»

Штотыднёвая газета Акадэміі навук Беларусі

В. а. рэдактара Реальд ЛЕВІН.

Адрас рэдакцыі: 220072, г. Мінск, вул. Ф. Скарыны, 1, пакоі 309а, 309 б. Тэлефоны: рэдактара — 39-46-12, карэспандэнтаў — 39-54-51

Мінская фабрыка «Чырвоная зорка» МПВА імя Я. Коласа

Падпісана да друку 8.06.94 г. Зак. 1033

Тыраж 1450 экз.

Індэкс 64123